Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка

№24 красавік 2013

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

**26-га красавіка 2013-га году спаўняецца 27 год з моманту жудаснай Чарнобыльскай катастрофы, якая панесла і працягвае забіраць безліч чалавечых жыццяў.**




***Але сённяшні рэжым зноў распачаў будаўніцтва новай атамнай станцыі па расійскіх тэхналогіях.***

# Станісаў Шушкевіч: Лукашэнка ядзерную электрастанцыю ператварае ў “зброю”



Лукашэнка найперш разглядае Астравецкуе АЭС як сродак шантажу Літвы, - лічыць першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч. Паводле палітыка, кіраўнік Беларусі і раней казаў, што вывядзенне ядзернай зброі з краіны ў 90-х гадах было памылкай, і цяпер ён прагне мець гэтую зброю ў любым выглядзе.

Станіслаў Шушкевіч:

- Я думаю, што да гэтага можа дайсці, што Беларусь можа стаць ядзернай зонай. Таму што Лукашэнку ўжо так хочацца мець нешта ядзернае на тэрыторыі Беларусі, што ён фактычна ядзерную электрастанцыю ператварае ў "зброю". Адсюль мы будзем пагражаць Літве. Любая, самая нікчэмная, аварыя там – гэта пагроза Вільні. Так што гэта праект не энергетычны, не тэхналагічны, а ў першую чаргу – палітычны.

Паводле Станіслава Шушкевіча, ён, як фізік-ядзершчык, выступае за тое, каб у Беларусі была ядзерная энергетыка. Але не такая “маразматычная”, кажа палітык, якая зараз навязваецца краіне.

# “Чарнобыльскі шлях - 2013”

Праваабаронцы паведамляюць прынамсі пра 10 затрыманых удзельніках акцыі "Чарнобыльскі шлях", якая прайшла ў Менску 26 красавіка. Суды над некаторымі з іх пройдуць у панядзелак, 29 красавіка.




Затрыманых журналістак газеты "Наша ніва" Аксану Рудовіч і Ірыну Арахоўскую даставілі ў РУУС Савецкага раёна Менска. Праз некаторы час яны былі адпушчаныя з міліцыі.

Збітага Ігара Трухановіча таксама даставілі ў Савецкае РУУС, адкуль перавезлі ў сталічны Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на вуліцы Акрэсціна.

Прэвентыўна, яшчэ да пачатку "Чарнобыльскага шляху", у Менску затрымалі эколага Ірыну Сухій і актывістаў Вольгу Канавалаву Васіля Сінюхіна і Канстанціна Кірыленку. Іх даставілі ў аддзяленне міліцыі, дзе пратрымалі тры гадзіны, а затым адпусцілі.

# Заява прэс-сакратара генеральнага сакратара ААН з нагоды 27 гадавіны аварыі на ЧАЭС

Адзначаючы дваццаць сёмую гадавіну аварыі на Чарнобыльскай АЭС, мы аддаём належнае работнікам аварыйна-выратавальных службаў, якія, рызыкуючы жыццём, змагаліся з яе наступствамі, тым, хто быў вымушаны пакінуць свае дамы, - а іх больш за 330 000 чалавек - і мільёнам, якія пражываюць у заражаных раёнах людзей, якія доўгі час знаходзіліся ў стане псіхалагічнага шоку, выкліканага бесперапыннай трывогай пра сваё здароўе і дабрабыт.

Незлічоная колькасць жанчын, мужчын і дзяцей, якія пацярпелі ад радыякцыйнага забруджвання, ніколі не павінны быць забытыя.

Пацярпелы раён усё яшчэ не адышоў ад наступстваў аварыі. Наступствы экалагічнай шкоды для харчовых ланцужкоў ў выніку траплення ў іх радыякцыйных рэчываў, а таксама для зямельных і водных рэсурсаў будуць у многіх выпадках адчувацца яшчэ доўгія гады.

У той жа час прыемна адзначыць, што людзі сёння атрымалі шанец весці нармальнае жыццё.

Для замацавання гэтых абнадзейлівых тэндэнцый Генеральная Асамблея абвясціла 2006-2016 гады «Дзесяцігоддзем рэабілітацыі і ўстойлівага развіцця» пацярпелых раёнаў. План дзеянняў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па Чарнобылі адлюстроўвае нашу прыхільнасць справе дасягнення мэтаў Дзесяцігоддзя з дапамогай засяроджвання ўвагі на сацыяльна-эканамічным развіцці, прапагандзе здаровага ладу жыцця і забеспячэнні эканамічнай самадастатковасці насельніцтва.

Людзі, якія змагаюцца з наступствамі Чарнобыльскай аварыі, праяўляюць вялікую ўстойлівасць. Тым не менш яны па-ранейшаму маюць патрэбу ў падтрымцы.

Генеральны сакратар звяртаецца да міжнароднай супольнасці з заклікам праяўляць шчодрасць пры аказанні дапамогі пацярпелым раёнам у іх барацьбе за доўгачаканае вяртанне да нармальнага жыцця.

Міжнародная супольнасць вынесла шэраг важных урокаў з дзейнасці па пераадоленні гуманітарных наступстваў аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Гэтыя ўрокі знайшлі адлюстраванне ў падрыхтаваным Упраўленнем Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па каардынацыі гуманітарных пытанняў даследаванні па тэме «Забеспячэнне ўзаемасувязі паміж сістэмай каардынацыі гуманітарнай дзейнасці і сістэмай рэагавання на ядзерныя аварыі», які змяшчае высновы, якія могуць выкарыстоўвацца і ў іншых сітуацыях, звязаных з атамнымі аварыямі, ва ўсім свеце. Генеральны сакратар заклікае прымаць далейшыя меры па выкананні рэкамендацый, якія змяшчаюцца ў гэтым даследаванні.

Сёння, праз 27 гадоў пасля трагедыі Чарнобыля, Генеральны сакратар заяўляе аб прыхільнасці сістэмы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый далейшаму аказанню дапамогі асобам, якія пацярпелі ў выніку Чарнобыльскай аварыі, і працы па ўмацаванні ядзернай бяспекі і ўстойліваму развіццю энергетыкі ва ўсім свеце.

# Сартаванне смецця

***На мінулым тыдні прыйшла навіна пра тое, што ў горадзе над Нёманам будзе пабудаваны завод для перапрацоўкі смецця. Сусветны банк вылучыў на гэты праект ажно 43 з паловай мільёны даляраў крэдыту. Справа, безумоўна, патрэбная. Агучана таксама, што плануецца ўсталёўваць адпаведныя кантэйнерныя пляцоўкі і ўласна кантэйнеры з прыцэлам на тое, што ад смеццяводаў, якія зробленыя ў большыні шматкватэрных дамоў у перспектыве можна будзе зусім адмовіцца. Калі так здзейсніцца, то можна будзе толькі радавацца, бо Беларусь – адна з сама засмечаных краін у Еўропе. Паводле падлікаў статыстыкаў на прасторах сінявокай нагрувашчана ўжо каля 40 мільёнаў тон неперапрацаваных бытавых адкідаў. Штогод гэтая агромністая маса павялічваецца на чатыры мільёны, а перапрацоўваецца паводле афіцыйных дадзеных толькі 15-20 адсоткаў. У развітых жа краінах гэты паказнік даходзіць да 90 працэнтаў.***

Але прыгадалася мне тут, што ў Гародні кантэйнеры на раздзельнае смецце ўжо ўсталёўвалі ў рамках нейкага экалагічнага праекту. Прыкладам у цэнтральным парку Жылібера, зрабілі нібыта ўсё як належыць – дзіркі і напісы “шкло”, “папера”, “пластык”. Найбольш даверлівыя і сумленныя грамадзяне так і пачалі старанна кідаць смецце ў адпаведныя дзіркі. Толькі неяк прыўзнялі мы з сябрам гэты прыгожы каляровы кантэйнер, а пад ім…агульны бак. Словам, усё адно ўсё ў адну кучу. Каб хацеў, такое не прыдумаў бы. Гэта ж трэба мець адпаведныя мысленне, каб так зрабіць. Прыкладна так, як у класічнай яшчэ з савецкага часу показцы. Прыйшлі людзі працаваць. Адзін капае ямкі, а другі старанна іх адразу засыпае. У першага пытаюць: “Што вы робіце? – “Ямкі для дрэўцаў капаю!”. – “А вы, другі, што?” – “Я не другі, я – трэці, а другі ня выйшаў на працу”. Так і з гэтымі кантэйнерамі. У нас жа за што ня возьмуцца – альбо раскрадуць, як тыя дзяржаўныя чыноўнікі – міністр спорту і памочнік прэзідэнта – драўляныя сарціры падвышанай камфортасці скралі і завезлі на свае лецішчы. Альбо ўсё ідзе не праз галаву, а праз зусім іншае месца. Вось у той жа Гародні колькі ўжо гаворыцца пра стварэнне гораду-музею, але як пачынаюць нешта рабіць, то нічога вартага з гэтага, як правіла, не выходзіць. Якія б праекты не рэалізоўвалі, колькі б грошай не трацілі. Вось паставілі гадоў два таму побач з інфармацыйным турыстычным цэнтрам на вуліцы Ажэшкі турнікет для “паркоўкі” ровараў – за гэты час аніводнага ровара там і блізка не стаяла. Бо тым жа раварыстам па горадзе ездзіць няма дзе, скачуць яны бедныя з ходнікаў на праезную частку і назад, мучацца. І роварны рух развіваецца сам па сабе, сярод аматараў і без удзелу дзяржаўных асяродкаў.




Што датычыць той жа чысціні беларускіх гарадоў, якой так любяць хваліцца дзяржаўныя ідэолагі, то яна трымаецца найперш на катаржнай працы шматлікіх дворнікаў, якія абавязаны ў кожную пару году выходзіць на працу яшчэ сярод ночы, асабліва шмат ім клопату зараз, заснежанай зімой. За час змены такі дворнік у больш цёплую пару абавязаны прыбіраць амаль няспынна. А вось культура самых жыхароў, выхаваных яшчэ савецкай сістэмай, на роўні дзікуноў. Моладзь жа, якая вырасла ўжо пры новым рэжыме, смеціць проста беспераПЫННА.

Так часам хочацца пахваліць цяперашнюю ўладу хоць за што, але ніяк не атрымліваецца. Вось сталі ў аўтобусах Гародні прапагандаваць мінуўшчыну і культуру гораду, рубрыку добрую прыдумалі “Жывая гісторыя”. Нават пабеларуску запусцілі гэты асветніцкі праект, але і тут не абышлося без лыжкі дзёгцю амаль у кожным гукавым роліку. То вымаўленне беларускіх словаў няправільнае, то праўда гістарычная не сказана да канца. А цяпер сталі ўжо новыя рэкламныя ролікі пускаць па-расейску, перакручваючы на маскоўскі лад імёны гістарычных асобаў. І ўсё гэта таму, што людзі робяць нязгодна з тым, што думаюць. Бо найперш трэба любіць сваё, шанаваць сваё, тады гэта будзе арганічна, натуральна і шчыра. Найперш трэба адсартаваць усё ў мазгах і выкінуць на сметнік чужую ідэалогію. І тады можа ўсё спакваля і стане на месца…

*Уладзімір Хільмановіч*

# Становішча палітычных зняволеных у Беларусі крытычнае, свабода 40 актывістаў сур'ёзна абмежаваная

**Міжнародная Федэрацыя за правы чалавека (FIDH) і яе сяброўская арганізацыя ў Беларусі Праваабарончы цэнтр «Вясна» выказваюць глыбокае абурэнне масавымі і сістэматычнымі актамі ціску і рэпрэсій, якім падвяргаюцца як палітычныя зняволеныя, так і людзі, абмежаваныя ў свабодзе па палітычных прычынах.**

Нягледзячы на тое, што 14 лютага 2013 года намеснік генпракурора Беларусі Аляксей Стук заявіў на прэс-канферэнцыі, што ўмовы ўтрымання палітычных зняволеных у турмах і калоніях Беларусі такія ж, як і ва ўсіх астатніх асуджаных, факты, сабраныя нашымі арганізацыямі, з відавочнасцю кажуць пра адваротнае.

11 чалавек, якія знаходзяцца ў зняволенні па палітычных матывах, пастаянна падвяргаюцца пакаранням, якия рэзка пагаршаюць і без таго нялёгкія рэжымы іх утрымання, абмяжоўваюць іх сродкі да існавання, якасць харчавання і медыцынскай дапамогі. Пазбаўленне спатканняў са сваякамі, абмежаванне карэспандэнцыі і пастаянны ціск з мэтай атрымання прашэння пра памілаванне дапаўняюць фізічныя выпрабаванні псіхалагічнымі і набліжаюць умовы ўтрымання да жорсткага і зневажальнага чалавечую годнасць абыходжання, забароненых арт. 7 і 10 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах і арт. 16 Канвенцыі супраць катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных ці прыніжаючых годнасць відаў абыходжання і пакарання. Пры гэтым абмежаваны доступ да адвакатаў, калі часцей за ўсё сустрэчы адбываюцца ў прысутнасці канвою, не дазваляе бяспечна перадаваць інфармацыю пра ўсе выпадкі ціску.

FIDH і ПЦ "Вясна" звяртаюць увагу, што акрамя 11 палітычных зняволеных, свабода шэрагу грамадзян Беларусі, якія не знаходзяцца ў месцах зняволення, у цяперашні час сур'ёзна абмежаваная з прычыны іх асуджэння або пераследу па палітычна матываваных крымінальных справах. Гэта датычыцца на момант публікацыі 40 чалавек.

У дачыненні да 25 памілаваных і вызваленых датэрмінова палітычных зняволеных, пасля іх выхаду на волю ў 2011-2012 гг., не была пагашаная судзімасць, што пазбаўляе іх шматлікіх грамадзянскіх і палітычных правоў, у тым ліку балатавацца на выбарах ці займаць пасаду дзяржаўнага служачага. Яны знаходзяцца на прафілактычным уліку органаў унутраных спраў, які дазваляе супрацоўнікам міліцыі рэгулярна наведваць іх. Пры прыцягненні да адміністратыўнай адказнасці тройчы на ??працягу года ім пагражае ўстанаўленне прафілактычнага нагляду, з больш сур'ёзнымі абмежаваннямі і магчымасцю паўторнага прыцягнення да крымінальнай адказнасці і пазбаўлення волі.

Так, у дачыненні да трох актывістаў на падставе адміністратыўных спагнанняў, вынесеных судамі ў сувязі з іх грамадскай дзейнасцю ў 2012 г., былі ўстаноўлены прафілактычны нагляд з боку органаў унутраных спраў. Гэта азначае, што яны абавязаныя знаходзіцца дома ў начны час, не могуць выязджаць за межы населенага пункта без дазволу адказнага органа, на іх распаўсюджваецца шэраг забаронаў, у тым ліку на наведванне публічных месцаў і інш., што істотна абмяжоўваюць іх свабоду. Парушэнне гэтага рэжыму можа пацягнуць паўторнае прыцягненне да крымінальнай адказнасці і пазбаўленне волі. Выпадкі Васіля Парфянкова, у траўні 2012 прысуджанага да 6 месяцаў арышту, або Паўла Вінаградава, 28 лютага прысуджанага да 7 сутак арышту за парушэнне рэжыму прафілактычнага нагляду, паказваюць, што гэтая пагроза цалкам рэальная.

FIDH і ПЦ "Вясна" прадстаўляюць аналітычную запіску, якая наглядна дэманструе сістэматычныя рэпрэсіўныя дзеянні ў дачыненні да асобаў, якія адбываюць і ўжо адбылі пакаранне за сваю палітычную ці праваабарончую дзейнасць. Гэты дакумент быў перададзены Спецыяльнаму дакладчыку у па Беларусі пры Савеце па

правах чалавека ААН, Еўрапейскаму камісару па пытаннях пашырэння і палітыкі добрасуседства Штэфану Фюле, адпаведным тэматычным інстанцыям ААН, АБСЕ і іншым міжнародным механізмам па абароне правоў чалавека.

«Пасля хвалі рэпрэсій, якая ўзнялася пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 г., уладам Беларусі ўжо мала проста адправіць чалавека ў турму за яго палітычную альбо грамадзянскую дзейнасць, ім трэба маральна растаптаць, зняважыць чалавека. Для дасягнення гэтых мэтаў улады не грэбуюць ніякімі метадамі ціску: ад прымянення дысцыплінарных спагнанняў і абмежаванняў да арганізаваных правакацый з боку іншых зняволеных», - заявіў Валянцін Стэфановіч, намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра "Вясна".

«Сабраныя матэрыялы несумненна даказваюць, што, сурова караючы за любыя актыўныя праявы іншадумства, рэжым не толькі не мяняе сваю палітыку, але і не задавальняецца дасягнутым», - заявіла Суэр Белхасэн, Прэзідэнт Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH). «Пазбаўленыя свабоды людзі працягваюць заставацца мішэнню рэпрэсій, а тыя, хто ўсё ж такі выйшаў на волю, працягваюць заставацца закладнікамі ўладаў, у любую хвіліну рызыкуючы зноў апынуцца за калючым дротам. Мэта ўладаў - выкарыстаць жыццё і свабоду актывістаў для палітычнага гандлю, а таксама паспрабаваць прадухіліць іх вяртанне да нармальнага жыцця ў выпадку вызвалення », адзначыла Суэр Белхасэн.

Міжнародная Федэрацыя за правы чалавека (FIDH) і Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуюць ад уладаў краіны спыніць гэтую ганебную практыку; вызваліць і зняць судзімасць з усіх незаконна асуджаных, а таксама перагледзець справы, у якіх відавочны палітычны складнік, і зняць з раней вызваленых ахвяраў палітычна матываванага пераследу ўсе абмежаванні ў правах.

# Вынікі маніторынгу месцаў прымусовага ўтрымання ў Беларусі

***1 красавіка ў Менску Праваабарончы цэнтр "Вясна" прэзентаваў "Справаздачу па выніках маніторынга месцаў прымусовага ўтрымання ў Рэспубліцы Беларусь". Яна падрыхтаваная ў супрацы з вопытным экспертам, юрыстам з вялікай адвакацкай практыкай Паўлам Сапелкам.***




Справаздача ахоплівае перыяд пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года, які адзначыўся хваляй рэпрэсіяў супраць палітычных дзеячаў, праваабаронцаў, журналістаў, грамадскіх актывістаў. Інструментам падаўлення апанентаў улады стала іх масавае асуджэнне да пазбаўлення і абмежавання волі, а таксама да кароткатэрміновага адміністратыўнага арышту. Палажэнне асуджаных і падвергнутых адміністратыўнаму спагнанню пагаршаецца сістэмнымі праблемамі месцаў прымусовага ўтрымання.

Па выніках маніторынгу праведзены аналіз такіх праблемаў - як у частцы недахопаў айчыннага пенітэнцыярнага заканадаўства, так і ў частцы заганаў правапрымяняльнай практыкі. Заканадаўства і практыка яго прымянення аналізуецца з пункту гледжання выканання дзяржавай абавязкаў, замацаваных Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і абавязковымі для Беларусі Пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, Мінімальнымі стандартнымі правіламі абыходжання са зняволенымі ААН, іншымі дакументамі.

У справаздачы нададзена ўвага параўнальнаму аналізу нормаў права Беларусі і розных дзяржаў, якія дасягнулі прагрэсу ў выкананні задачаў пенітэнцыярнай сістэмы.

Сярод праблемаў у выданні ў прыватнасці асвятляюцца:

Грамадзянскія і палітычныя правы зняволеных

Права на жыццё. Недатыкальнасць асобы

Катаванні і іншыя акты жорсткага, бесчалавечнага, зневажаючага годнасць абыходжання і пакарання

Павага асабістай годнасці

Удзел у выбарах

Свабода асацыяцый

Судовая абарона. Дзяржаўная пошліна

Права на юрыдычную дапамогу

Неправавое падаўжэнне тэрміну зняволення і неабгрунтаванае ўзмацненне жорсткасці рэжыму ўтрымання

Сацыяльныя і эканамічныя правы зняволеных

Медыцынскае абслугоўванне зняволеных

Аналіз асобных відаў месцаў прымусовага ўтрымання грамадзян у Беларусі

Беларусь і Арганізацыя Аб'яднаных Нацый

Як адзначыў падчас прэзентацыі Павел Сапелка, гэтая аналітычная справаздача – толькі першы крок, і праца па дадзенай праблеме будзе працягвацца, усе закранутыя пытанні будуць даследвацца і надалей больш паглыблена і шырока.

# Сцэнар

***Здавалася ўжо, што надышоў той кароткі перыяд, калі на беларускую палітычную сцэну прыйшоў зацішак. І будзе той зацішак доўжыцца аж да чарговых выбараў. Ну а галоўныя акцёры, здавалася, або пайшлі адпачываць, або пачалі працаваць над новымі ролямі ў чарговым спектаклі.***

Было толькі не ясным некалькі дробных рэчаў – ці ўжо падрыхтаваны сцэнар новага серыялу і які гэта будзе жанр, камедыя ці трагедыя. Паколькі меладрама або трылер ўжо даўно не цікавіць гледачоў. І не толькі беларускіх, але найперш не беларускіх.

Але ж не. Зацішак не адбыўся. Бо паводле закону жанру гледачоў увесь час трэба трымаць у вострай напрузе. Не даваць ім часу падумаць пра ўжо ўбачанае. Не дапускаць, каб яны змаглі абмеркаваць што ўбачылі раней і нечакана для сябе прыйшлі да высновы, што больш творы гэтага сцэнарыста ў пастаноўцы дадзенага рэжысёра з удзелам канкрэтных акцёраў іх ужо не цікавяць.

Для поспеху усялякага, у тым ліку і нават самага бяздарнага твору, перад гледачом ўвесь час трэба рэкламаваць толькі канкрэтныя прозвішчы і ўжо пазнавальныя твары. Каб глядач і ў думках не мог уявіць, што нехта можа выканаць гэтыя ролі лепш.

І вось ужо зноў пачаўся новы серыял з старым сцэнарам. Адна частка вядучых апазіцыйных палітыкаў Беларусі шчодра дарыць беларускаму насельніцтву “больш Еўропы”, не менш шчодра прапаноўваючы ўладзе годнае і нават ганаровае выйсце з нібыта безвыходнай для тых сітуацыі. Ініцыятыва цікавая ў першую чаргу тым, што агучана нечакана, не ў сувязі з будучымі выбарамі. Другая і іншыя часткі палітычнай эліты ад апазіцыі абураныя выхадкай першых. Але для простага абывацеля яны ўжо здаюцца другаснымі, разгубленымі і адгуляўшымі свае ролі. І не толькі таму, што ініцыятыва не на іхным баку.

Што там тая ініцыятыва. Яна нішто ў параўнанні з тым, што рэжысёр галоўныя ролі прапанаваў іншым. Ініцыятыва ўсяго толькі частка сцэнару, які ў кожным фільме выконвае канкрэтны актор, і якога заўсёды можна замяніць на другога. І гэта рэжысёр выбірае, хто больш падыходзіць для канкрэтнай ролі.

Таму ў палітычным серыяле зусім не важна хто акцёры. Ды нават не так важна хто рэжысёр. Найбольш загадкавым, таямнічым і цікавым ёсць пытанне хто напісаў сцэнар! І дзе гэты таямнічы аўтар? Чаму не хоча сабе славы і ўсю яе цалкам аддае акцёрам? Можа таму, што добра ведае, што аніякай славы гэты спектакль не прынясе. Хаця ненайлепшую імітацыю прэміі “Оскар” або “Залатая пальмавая галуза”, за ненайлепшую імітацыю акторскага майстэрства нехта можа і атрымаць.



У недасведчаных людзей нават можа ўзнікнуць пытанне, чаму за кепскую гульню нехта атрымае прэмію. Але ж уся справа менавіта ў тым, што акцёр не вінаваты ў благім фінале. Кепскі фінал ды бляклая гульня, як і тая добрая ініцыятыва, у палітычным спектаклі ёсць усяго толькі часткай сцэнару. І трэба мець добры талент, каб згуляць кепска.

Віна акцёраў не ў тым, што сцэнар кепскі, а ў тым, што многія з іх пагаджаюцца на ўдзел у серыяле не дачытаўшы сцэнар да канца. А часам і не ўбачыўшы яго. Акцёры, як і ўсе таленавітыя людзі свету, неверагодна ранімыя людзі. Многія з іх хворыя на славу, іншыя сапраўды лічаць свой геній найвялікшым. І шчыра не разумеюць, чаму рэжысёр выбраў на іх думку не проста менш вартага, а поўную бездар, выскачку і недавучку, ня здольную нават правільна вымавіць фразу “На стол пададзена”. Ну а некаторыя проста дагаджаюць рэжысёру, бо такі іх акцёрскі хлеб.

Толькі вось з гісторыі кінематографа вядомыя факты, калі акцёры адмаўляюцца ад здымкаў з-за кепскага сцэнару. У такіх акцёраў не лёгкі лёс. Яны не займаюцца высмейваннем майстэрства калег, не абражаюць рэжысёраў і сцэнарыстаў. А проста робяць сваю справу. Менавіта такія акцёры з часам становяцца не толькі самымі любімымі героямі фільмаў, але і рэжысёрамі, і сцэнарыстамі, і часам здымаюць свой фільм па сваім сцэнары з сабой у галоўнай ролі. І фільм становіцца агульнанародным. Але каб стаць такім, трэба быць сапраўднай зоркай.

***Віктар Сазонаў***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на травень 2013 году

***4 траўня***

*150 гадоў таму (1863) – У баі пад Дубічамі (цяпер Летува) загінуў Людвік Нарбут, адзін з кіраўнікоў вызвольнага паўстаньня 1863 году.*

***5 траўня***

*45 гадоў таму (1968) – У Дзятлаве адчынены музей народнай славы.*

*35 гадоў таму (1978) – Адкрыўся Гарадзенскі Дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы.*

***7 траўня***

*Сьвята абраза Маці Божай Жыровіцкай.*



***13 траўня***

*Сьвята Гарадзенскай грэцка-каталіцкай парафіі Зьяўленьня Маці Божай у Фаціме.*

***14 траўня***

*400 гадоў таму (1613) – Мястэчка Жыровічы атрымала Магдэбургскае права.*

***18 траўня***

*Міжнародны дзень музеяў.*

***19 траўня***

*Сьвята Слонімскай грэцка-каталіцкай парафіі Сьвятой Тройцы.*

***21 траўня***

*325 гадоў таму (1688) – У Дзятлаве нарадзіўся Мікалай Фаўстын Радзівіл, дзяржаўны і вайсковы дзеяч ВКЛ.*

*90 гадоў таму (1923) – У в. Равяцічы (Навагрaдзкі р-н) нарадзіўся Міхась Капціловіч (памёр у Навагрaдку ў 1990-ых), настаўнік, удзельнік Саюзу Вызваленьня Беларусі, вязень савецкіх канцлягераў.*

***22 траўня***

*150 гадоў таму (1863) – У Вільні за падтрымку паўстанцаў расейскімі карнікамі расстраляны ксёндз Станіслаў Ішора. Служыў вікарыем у жалудоцкім касьцёле.*

*150 гадоў таму (1863) – Пераможны бой паўстанцкіх атрадаў з расейскімі карнікамі ля вёскі Кадыш (Гарадзенскі р-н).*

***23 траўня***

*125 гадоў таму (1888) – У Гародні нарадзіўся Караль Румель, першы алімпіец зь Беларусі (гульні 1912, Стакгольм), коннік-спартовец.*

***24 траўня***

*Дзень славянскай пісьменнасьці.*

*150 гадоў таму (1863) – У Вільні за чытаньне ў Вавёрскім касьцёле (Лідзкі р-н) Маніфэсту паўстаньня расстраляны ксёндз Раймунд Зямацкі.*

*50 гадоў таму (1963) – У Гародні нарадзіўся Зьміцер Кісель, беларускі грамадзкі дзеяч, журналіст*

*30 гадоў таму (1983) – У Лёндане памёр Павал Навара, удзельнік БКА, дзеяч эміграцыі (Вялікабрытанія). Вучыўся ў Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі. Нараджэнец в. Купіск (Наваградзкі р-н). Пахаваны на могілках у р-не Фінчлі ў Лёндане.*

***25 траўня***

*145 гадоў таму (1868) – У Ваўкавыску нарадзіўся Давыд Яноўскі, адзін з мацнейшых шахматыстаў сьвету канца 19-пач. 20 ст., з 23 гадоў жыў у Францыі і ЗША.*

*145 гадоў таму (1898) – У Ленчыцах (Польшча) нарадзіўся Канстанцін Кіслы, беларускі праваслаўны, грамадска-культурны дзеяч, кампазітар і дырыжор. У пачатку 1930-ых жыў і дзеяў у Слоніме.*

***26 траўня***

*140 гадоў таму (1873) – Памёр Міхаіл Дзьмітрыеў (нар. у 1832 у Пецярбургу), расейска-беларускі этнограф, фальклярыст, пэдагог. Быў дырэктарам гімназіі ў Навагрaдку, першым дырэктарам (1867-73) Гарадзенскай дырэкцыі народных вучылішчаў. Пахаваны ў Гародні на старых праваслаўных могілках.*

***31 траўня***

*75 гадоў таму (1938) – Расстраляны Сямён Якубчык, беларускі гісторык, публіцыст. Нараджэнец в. Калантаі (Ваўкавыскі р-н).*

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі “Радыё Рацыя” - праграма “Людзьмі звацца!”, якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*
**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*
**www. spring96.org**




*На сайце*
**www.palitviazni.info**
*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*
**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя і іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
красавік 2013
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

